Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 60.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 480000 м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 75.000 мк., сярод тэксту 60.000 м. і на 4 стр. 50.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 20. Вільня, Серада, 19-га сьнежня 1923 г. Год I.

## Перамога дэмакратыі.

У мамэнт, калі, пэўная сваей перамогі, польская нацыяналістычная „правіца" Сойму рыхтавалася зрабіць *сьмяротны ўдар усяму сялянству Польшчы*—бяз розьніцы нацыянальнасьці,—у мамэнт такога, на пагляд, поўнага і блізкога трыумфу абшарнікаў над фінансава зруйнаванай і маральна занялаўшай дэмакратыяй,—чатырнаццаць дэпутатаў-сялян з польскае большасьці, дагэтуль пакорных і паслухмяных абаламуціўшым іх польскім паном і ксяндзом-эндэкам, неўспадзеўкі паднялі галаву, скінулі з сябе ўзложанае ім на шыю маральнае ярмо і адным моцным, цьвёрдым словам „не!" разьбілі ўсе хітрыя пляны заклятых ворагаў працоўнага народу.

Урад Вітаса і Корфантага, урад аб'яднаных на грунце дзікое ненавісьці да ўсіх грамадзян Польшчы няпольскае нацыянальнасьці *паноў, капіталістаў і вясковых багатыроў*, якія ўжывалі сваей улады выключна дзеля здаваленьня сваей бязьмежнай прагавітасьці на лёгкую пажыву, ад гэтага аднаго слова чатырнаццацёх паслоў, раптам зразумеўшых сваю адказную ролю ў Сойме, *перастаў існаваць*. *„Курс на права"*, які манііўся давясьці да поўнага разгрому *ўсіх* нацыянальных дэмакратыяў Польскае Рэспублікі (у тым ліку і польскай) і на руінах гэтае самае Рэспублікі, зьнішчанай матарыяльна і маральна, збудаваць трон для будучага *польскага монарха*,—курс гэты аканчальна збанкрутаваў.

Тварэньне новага ўраду, згодна з прынятым ува ўсім культурным сьвеце парляманцкім звычаем, пан прэзыдэнт Войцеховскі, хоць і з цяжкім сэрцам, у першы чарод павінен быў даручыць *галаве опозыцыі*, паслу Тугуту лідэру партыі „Wyzwolenie".

Мы дужа добра памятаем, як у часе выбараў у Сойм партыя п. Тугута суліла нашаму народу залатыя горы: *тэрыторыяльную аўтаномію, школу ў роднай мове, „ачыстку" адміністрацыі*, а перад усім — *зямлю*. І мы гатовы верыць, што ўсё гэта рабілася шчыра—мо' ў тэй надзеі, што для „Wyzwolenia" ня хутка прыдзе магчымасьць здабыць ўлады. Але, як нас—на горкіх для нас прыкладах—навучыла сама-ж польская дэмакратыя, *ад пекных лёзунгаў да зьдзейсьненьня іх—дарога дужа далёкая*. Далёкая мо' й не затым, што дзеячы „Wyzwolenia" не захацелі-бы споўніць свае выбарныя пасулы, а затым, што пры найлепшых жаданьнях *не здалелі-бы* правясьці ўсё гэта ў жыцьцё ў перасычаным яшчэ дзікім нацыяналізмам польскім грамадзянстве і *сучасным польскім Сойме*.

Тое самае трэба сказаць і аб усёй сацыяльнай праграме „Wyzwolenia"—дужа радыкальнай: на грунце сучаснага Сойму зьдзейсьніць яе было-бы немагчыма, бо для яе не знайшлося-бы большасьці і дастатачнага падтрыманьня нават з боку некаторых нацыянальных меншасьцяў (жыдоўскай, нямецкай), дзе ёсьць перавага элемэнтаў, сацыяльна больш блізкіх да „правіцы", чым да „лявіцы".

П. Тугут у сваіх перагаворах з рознымі парляманцкімі клюбамі пераканаўся, відаць, аб труднасьці сваей задачы, бо ўжо згаджаўся нават свой урад абаперці ізноў на *польскай* большасьці—ад хрысьціянскіх дэмакратаў улева, выключаючы эндэкаў і нацыянальныя меншасьці. Але і гэта не магло ўдацца дзеля *вострых супярэчнасьцяў і палітычных, і сацыяльных, і нават асабістых*. І лідэр „Wyzwolenia" быў прымушаны зрачыся даручанае яму п. прэзыдэнтам місіі.

Гэта місія цяпер даручана б. міністру фінансаў, Уладыславу Грабскаму. Мы йшчэ ня ведаем, ці яму лепш пашэньціць, чым п. Тугуту,—ня ведаем, які будзе склад яго габінэту,—але ўжо сам той факт, што п. Грабскі, які быў увайшоў у склад ураду п. Вітаса, *выступіў* з яго праз пару тыдняў, калі выясьніў палітычнае і маральнае аблічча эндэцка-пястоўскіх міністраў, — сам гэты факт гаворыць аб *немагчымасьці павароту да панаваньня скампрамітаванага ўжо правага ўраду*, аб немагчымасьці прадаўжаньня *старога курсу*.

Якім-бы ні аказаўся новы ўрад, мы ў апошніх палітычных падзеях у Польшчы бачым *перамогу дэмакратычнае мысьлі* над дзікім нацыяналізмам і сацыяльнай рэакцыяй. Ма бачым *прабуджэньне сацыяльнае сьвядомасьці* нават сярод найбольш абаламучанае часьці польскага сялянства, доказам чаго зьяўляюцца тыя чатырнаццаць сялянскіх паслоў, што адважыліся паўстаць проці сваіх маральных прыганятых. Развал нацыяналістычнае большасьці ў польскім Сойме—гэта ўжо другая — чародная пасьля паражэньня кансэрватыстаў у Англіі—*праява вызваленьня* народаў Эўропы ад таго *нацыяналістычнага „пабеднага шалу"*, які стварыў грунт дзеля панаваньня ў іх самае чорнае рэакцыі.

Хай толькі польская дэмакратыя пасьля гэтай сваей першай перамогі над рэакцыяй *ня спыняецца на паўдарозе*, а йдзе далей наперад. Хай знойдзе ў сабе даволі сіл і адвагі, каб *забіць гідру рэакцыі на сьмерць і зьдзейсьніць у поўнай меры ідэалы працоўных масаў усіх народаў Польшчы*,— і дэмакратыі ўсіх нацыянальнасьцяў дапамогуць ей дайсьці поўнае перамогі над ворагамі „нашае і вашае волі".

## У нашага румынскага блізьнюка.

*(Сацыялёгічная паралель)*.

„Хрысьціянская Ліга", „Саюз Патрыётаў", пераважна крэсоўцаў, паціху,—у змове з „генараламі ад акупацыі" на ўсходніх—бэсарабскіх і заходніх—сяміградзкіх „Крэсах", гатуючых кадры фашыстаў,—падзеньне прамысловасьці, зьмяншэньне вывазу, дэзарганізацыя фінансаў і, як найлепшае і канешнае выражэньне ўсяго гэтага сацыяльна-палітычнага букету рэакцыі — спадак румынскай „маркі"—г. зв. леі... І, зразумела, страшэнны ўзрост дарагоўлі!..

Усё гэта робіць Румынію ня толькі найбліжэйшай да сэрца суседкай Польшчы, але запраўднай сястрой Польшчы п. п. Корфантага і Дмоўскага...

Можна прадпалажыць, што аднолькавыя зьявішчы маюць і падобныя прычыны.

І ў запраўднасьці цяперашні рэжым у Румыніі, асновалы на панаваньні невялікай кучкі вялікіх капіталістаў, якія ў суполцы з „баярамі" — абшарнікамі безцэрамонна набіваюць сабе кішані — карыстаючыся „высокай апекай і абаронай з боку трону..

Праўда ў Польшчы пакуль што няма караля, але як жа-ж да яго паціху, а нат голасна ўздыхаюць ужо хаця-ж бы нашыя віленскія „баяры"—„консэрватысты"...

Але-ж паслухайце далей, як дайшла да гэткага адчайнага палажэньня багатая Румынія, гэтая другая, пасьля Расеі „жытніца Эўропы", якая мела ўсе магчымасьці хутка дайсьці да даўняга дабрабыту пасьля ваенных зьнішчэньняў.

Як і шмат каго іншага, і Румынію падбіла шалеючая цяпер у Эўропе „вэрсальская хвароба"—і яна ў 1919 годзе выабразіла сябе „моцарстрам", амаль нават, як хтось яшчэ,—„вялікім моцарствам"!!.

Гэтая хвароба і давяла здаровы калісь край да ўтраты „добрага сэнсу" ў галаве сацыяльна-палітычнай раўнавагі ў грамадзянстве, абесцаненьні валюты і—агульнаму абядненьню шырокіх масаў народу...

Таксама, як і ў „Польшчы Пілсудскага", на „зары адраджэньня Вялікай Румыніі" ўсё грамадзянста—дробна-буржуазная інтэлігенцыя, афіцэрства, чыноўнікі, студэнты і інш. былі і ахоплены і захоплены гордым лятуценьнем і не шкадавалі ахвяры на аўтара „моцарствовай ідэі"... Усей гэтай „Маладой Румыніі" таксама здавалася, што прыйшлі часы яе ўрадаваньня і панаваньня і што гэтак добра будзе назаўсёды...

Але толькі цяпер усе гэтыя „палітыкі малодшага веку" добра зразумелі, што гэта ўсё былі толькі пекныя лятуценьні: цяпер дарваўшаяся да ўлады румынская Хьена, акурат як і ў Польшчы трымае сваіх урадоўцаў, ахвіцэраў, працаўнікоў на такіх пэнсіях, якія, як і ў Польшчы, засудзілі іх на галоднае выраджэньне...

Румынскія ўрадоўцы прабавалі таксама баставаць, выставіўшы вельмі скромныя дамаганьні аб павялічэньні „галодных пайкоў", але „хьенскі" ўрад ня горш ад пана Вітаса расправіўся з „сваімі" рабамі—працаўнікамі, літаральна раздавіўшы галодны рух, павыкідаўшы на вуліцу тысячы „важакоў", і... зарабіўшы добра на гэтым інтарэсе яшчэ і ў сэнсе „oszczędności" для скарбу...

У выніку ўсяго гэтага галоднага руху і гвалтаў урадовай клікі, і ў Румыміі хуткім тэмпам разьвіваецца пралетарызацыя сярэдняга стану насяленьня... Гэтае важнае зьявішча можа, як і дзе інш, прывясьці да вельмі паважных далейшых вынікаў...

У выніку гэтай пралетарызацыі сярод урадоўцаў і—запраўднага пануючага над імі ўрадовага тэрору пануючая кліка вялікай буржуазіі і баярства ня маюць ужо зусім ніякай перашкоды ў законе: дэмаралізаванае чыноўніцтва пакорна выпаўняе ўсе загады запраўдных паноў палажэньня, якія зусім бесцэрамонна нажываюцца, рабуючы народ і скарб, кідаючы сваім галодным слугам ласкавыя „łapówki"...

Краем фактычна правяць некалькі разбагацеўшых банкаў, якія скупоўваюць у свае рукі розныя прадпрыемствы, як гэта робіць Штынэс у Нямеччыне, ці Корфанты ў Польшчы.-.

Каралеўскі двор зьяўляецца толькі пекнай аздобай, якая падтрымліваецца з „шацункам" дзеля таго, каб лягчэй была вызысківаць народ і карыстацца сілай арміі і паліцыі—дзеля падтрыманьня „дысцыпліны ў краі"...

Нічога няма дзіўнога, што ў гэткіх варунках народнае недавольства расьце... Але расьце таксама і „энэргія" і „гатоўнасьць" ваенных штыкоў і паліцэйскіх гумовых палак...

І вось народны рух неяк злучаецца фашыстаўскімі антысэміцкімі дэмагогамі пераважна з крэсавых генаралаў, якія хочуць вызваліць край ад паняволеньня яго „жыдоўскімі", але ў запраўднасьці найпатрыятычнейшымі, нацыянальна-румынскімі банкамі...

Усходнія і заходнія крэсы робяцца цэнтрамі антыўрадовай агітацыі і фактычна ўжо не спаўняюць загадаў цэнтральнай улады... Крэсы неяк пачынаюць аўтаматычна адваліваццa, адламвацца ад Дзяржавы, не зважаючы на асаблівую патрыятычнасьць правадыроў гэтага руху... Гэтае адламываньне крэсаў указвае неяк на запраўдную прычыну ўсей румынскай, а можа й наагул „вэрсальскай", хваробы гэтага недайшоўшага да ладу „моцарства"...

Але на гэты магутны рух пакуль што цэнтр адказывае падгатаўленьнем ваеннай дыктатуры, да якой вельмі прыхільна адносіцца сам наступнік трону прынц Карл.

На гэтыя пагрозы падпольныя арганізацыі фашыстаў адказалі „чорным сьпіскам“ асобаў, якія павінны быць забіты пры пераварoце...

Гэты сьпісак нядаўна быў апублікаваны і зрабіў запраўдную паніку ў краі. У ліку гэтых асобаў—найбольш ведамыя палітыкі, грамадзкія дзеячы, капіталісты і абшарнікі краю... Сьпісак гэты выкрыты г. зв. „сігуранцай“—румынскай тайнай паліцыяй, якая, як можна добра зразумець, у гэтым грамадзянскім хаосе ўзаемных ненавісьцяў і падазрэньняў—плавае, як рыба ў вадзе, і фактычна зьяўляецца рашучай сілай у гаспадарстве,..—як да гэтага рашуча і хутка йдзе й Польшча...

Адзіная толькі, апрача караля, розьніца ў параўнаньні з нашымі польскімі ўнутранымі стасункамі, гэта—ў тым, што румынскі прэм‘ер п. Братіану—ня роўня нашаму „безкраватнаму“ прэм. п. Вітасу. Гэта нязвыкла разумы, хітры і спрытны, хоць таксама зусім безпрынцыпны, палітык. Пры дапамозе магутнай „сігуранцы“, аднолькава страшучы ўсіх паўсюднай небясьпекай, ён моцна ўтрымлівае ўладу, балянсуючы, як на нацягнутым дроце ў цырку...

Як можна зразумець, і там у Румыніі таксама адным з галоўных страхоцьцяў, якім паразіты на народным целе ўтрымліваюць уладу над грамадзянствам, зьяўляюцца „ківаньні“ на Ўсход, на „савецкую небясьпеку“, і спагадаючыя гэтай „небясьпецы“ ўсё мацнейшыя і мацнейшыя рукі паднімаючай галаву работніцкай клясы...

---

Вось якія цікавыя для „параўнаўчай соцыялёгіі“ зьявішчы можам мы наглядаць у суседняй сястрычцы-блізьнятцы нашае Польшчы—Румыніі...

І не дарма гэтак шчыра і паліцэйскі-сардэчна вітала румынскага караля ня так даўно ўся афіцыяльная Польшча...

**М.**

# Графаманія.

Беларуская газэта, папаўшы ў глухі вясковы куток, дзе яшчэ ня чулі аб магутнай хвалі нашага Адраджэньня, будзіць у душах зусім зразумелыя рэфлексы, заклікаючы спаўшых да працы. Першым адклікам у маладых гарачых душах зьяўляецца хаценьне выказаць у літэратурнай форме свае пераживаньні, быўшы целам здалёк, пачувацца блізкім духам той грамады піонэраў Справы, якія ўзялі на свае плечы цяжкі труд церабіць новыя шляхі ў разбуджаных душах. Гарачы парыў, гэткі зразумелы, гэткі блізкі сэрцу кожнага з нас, гэткі сьветлы малады і прыгожы! І вось плывуць у рэдакцыю няпрывычнай да пяра рукой пісаныя вершы аб безпатольнай Беларусі, аб мужыцкай крыўдзе, аб салавейнай песьні ў маёвую ночку, аб няшчасным каханьні і г. п. Вершы, пісаныя рукой дзяцюка, схапіўшага першы раз за пяро, каб зрабіць літэратурную споведзь душы, вершы ня толькі з кульгавым рытмам і скандальнай рыфмай, але вельмі часта нязгодныя з беларускай орфографіяй. Гэтак было й тады, калі радаснай навіной паляцела на вёску першая газэта „Наша Доля“, гэтак і цяпер — васемнаццаць гадоў пазьней, гэтак будзе й далей. Спаміж гэтых маладых „паэтаў“ мала каму суджана пабачыць свае творы надрукаванымі, яшчэ меней каму — папасьці на беларускі Парнас. Большасьць „твораў“, радзіўшыхся быць-можа ў вялікіх муках творчасьці або ў мамэнт натхненьня, паміраюць бязслаўна ў рэдакцыйным кошыку, і толькі малы процэнт дае магчымасьць сваім тварцам узяць шлюб з літэратурай.

Гэтак на старонках „Нашай Долі“ і „Нашай Ніві“ мелі свой дэбют паэты, якія сёньня зьяўляюцца магутнымі сіламі нашай літэратуры, выплыўшы з вясковых куткоў на літэратурную арэну, дзякуючы заблудзіўшай у вёску беларускай газэціне.

Цяжкі труд у масе сьмяцьця шукаць жамчужыны. Яшчэ цяжэйшы—усім гэтым грэшнікам пяра даць гэтакі адказ, каб не „абразіць аўтарскую гордасьць“ і не заліць холадам рэдакцыйнай „пачтовай скрынкі“ зазіхацеўшую ў маладой душы іскарку, якая з часам можа зазьяць вялікім полымям запраўднай творчасьці! Трэба чутка ўчытывацца паміж радкоў і, як добры спавядальнік, бяз злостнай іроніі разглядаць віну і даваць добрую раду.

Але трэба асьцерагацца й іншай крайнасьці.

Дзеля таго, што мы культурна молады, дзеля таго, што ў нас шмат дзе не хапае рук да працы, дзеля таго, што ў нас шмат яшчэ поля стаіць адлогам—радасна вітаць кожную мярноту, як зьявіўшагася з пушчы прарока. Друкаванае слова — паэма, повесьць, верш, апавяданьне,—твор чалавека хворага на графаманію *) зробяць вялізную шкоду нашай справе, выхоўваючы пакаленьне на творах, пазбаўленых мастацкага сэнсу і добрага смаку. Лік нашых чытачоў з кожным днём расьце і вялікі контынгэнс чытаючай публікі дае вёска. Кожная літэратурная навінка знойдзе сабе вясковых чытачоў, якія менш крытычна моʻ будуць адносіцца да сваей лектуры. А здараецца, што ў выдавецкай гарачцы прашмыгне праз друкарскую машыну і бяздарны твор, — дык абавязкам крытыкі ёсьць разьвеяць той аўторытэт, які дае яму друк.

Папера і друкарская фарба цярплівыя і бязкрытычныя: яны не саромяцца фіксуючы кожную чалавечую думку, але будучы гісторык літэратуры можа пачырванець, чытаючы бязьсільныя патугі пяра старога пакаленьня.

Асьцерагаймося літэратурных бяздарнасьцяў, каб не распаўсюджваць графаманіі, бо прыклад бывае заразным.

**П. Л.**

---

**Ці споўнілі Вы свой абавязак адносна Цантр. Беларускай Школьнай Рады? Ці заплацілі Вы належачую ад Вас грашовую складку за гэты месяц?**

---

*) Манія пісаць—ад грэцкага слова графэ—пішу.

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

Прэзыдэнт Вайцехоўскі прыняў адстаўку габінэту Вітаса і даручыў фармаваньне новага габінэту паслу Тугуту, лідэру партыі „Wyzwolenie“. Тугут прыняў місію і абвесьціў, што мае на мэце ўтварэньне не-парлямэнтарнага ўраду, у склад якога ўвойдуць спэцыялісты і які будзе мець заданьнем направу скарбу, войска і адміністрацыі. Далей п. Тугут распачаў перагаворы з прадстаўнікамі паасобных соймавых клюбаў. Выясьнілася, што большасьць клюбаў стаіць за ўтварэньне парлямэнтарнага ўраду. Хадэкі выступілі з камбінацыяй аб утварэньні польскай большасьці ад хадэкай да пэпэсоўцаў уключна. Захады п. Тугута ў гэтым кірунку не далі пажаданых вынікаў і п. Тугут зрокся місіі ўтварэньня габінэту.

Прэзыдэнт Вайцехоўскі даручыў утварэньне новага ўраду п. Ўладыславу Грабскаму, быўшаму міністру фінансаў у габінэце Сікорскага; Ул. Грабскі ў размове з журналістамі заявіў, што мае замер утварыць габінэт, які будзе мець на ўвазе галоўным чынам аздараўленьне фінансаў; ня можа быць мовы аб шырокай праграме ў іншых галінах дзяржаўнага жыцьця, пакуль ня будуць урэгуляваны фінансавыя пытаньні.

---

У зьвязку з адстаўкай хьена-пястоўскага ўраду вельмі заварушыліся розныя тайныя і яўныя — фашыстаўскія арганізацыі. „Robotnik“ друкуе камунікат ураду арганізацыі сокалаў, які, паведамляючы, што сакольская арганізацыя аб‘ядналася з арганізацыямі Галерчыкаў, Довборчыкаў, Лігай Ахроны Канстытуцыі і інш. фашыстаўскімі арганізацыямі ў Раду Нацыянальнай Абароны, якая ставіць сабе заданьнем падтрыманьне імкненьняў нацыянальнай палітыкі і барацьбы ўсялякімі срэдствамі проціў выступленьняў „пагражаючых ладу і бясьпечнасьці публічнай“,—заклікае ўсіх сябраў, каб былі ў кожны момант гатовы стаць на заклік Галоўнай Рады.

Таксама ажывілася дзейнасьць і другое фашыстаўскае арганізацыі P.P.P. (Pogotowie Patrjotów Polskich), якая абвесьціла мабілізацыю сваіх сяброў.

П. Морачэўскі, які спаўняе цяпер абавязкі маршалка Сойму, заявіў Прэзыдэнту Рэспублікі, што з прычыны мабілізацыі фашыстаў, таксама рыхтуюцца да баявое гатоўнасьці і сацыялістычныя баёўкі.

---

Камісія для досьледаў узросту дарагоўлі ўстанавіла, што ў першай палове сьнежня дарагоўля ў параўнаньні з апошняй паловай лістапада ўзрасла на 66,89 проц.

### Савецкая мука ў Варшаве.

У Варшаве зьявілася на рынках у значных разьмерах расейская мука т. зв. „крупчатка“, якая прадаецца шмат танней, чым амэрыканская.

---

Я. Пачопка.

# Кармленьне малочнай каровы.

(Гл. „Змаганьне“ № 17).

**Дзе і як ператраўляецца ў каровы корм?** Для таго, каб умела карміць карову, трэба быць знаёмым з устройствам трыбухоў каровы, тых органаў, дзе ператраўляецца корм.

Карова, як ведама, належыць да так званых жывёлаў жвачных, да якіх належыць, між іншым, і авечка. Устройства трыбухоў у жвачных шмат чым розьніцца ад трыбухоў тых жывёлаў, якія ня жвуць жвакі, напрыклад, трыбухоў каня і сьвіньні. Адзначаюцца жвачныя ад няжвачных, паперш ым, тым, што ў жвачных няма сьпераду верхніх зубоў, а самая галоўная адзнака ў тым, што ў няжвачных трыбухі складаюцца з аднаго толькі мяшка (ператраўніка) і кішак, тады як у жвачных трыбухі складаюцца з чатырох мяшкоў, зросшыхся разам: (ператраўнік складны): трыбуха, сіта, кніжкі і сычука.

Дзеля таго, што ў каровы ператраўнік складны, корм карова ператраўляець шмат даўжэй, чым конь. Праўда, карова жарэць корм надта скора, але затое, пад‘еўшы, яна йшчэ мусіць доўгі час жваць жваку, гэта значыць, другі раз пераціраць зубамі той самы корм, чаго ня робіць конь або сьвіньня, якія добра жуюць корм адразу.

Разгледзім папарадку, як бярэць карова корм і як перапускаець яна яго праз усе свае вантробы.

Карова захватаваець корм языком і пярэднімі зубамі. Пярэднія зубы карова маець толькі на ніжніх пашчэмках, увярху, насупраць іх зубоў няма, а ёсьць цьвёрды рубец.

Папаўшы ў рот, корм пераціраецца кутнімі зубамі і змачываецца сьлінаю. Апроч таго, што ад сьліны корм робіцца мягчэйшым, сьлізчэйшым і ад гэтага лягчэй глытаецца, сьліна пературараець на цукер той крахмал, які ёсьць у корме. Крахмал у вадзе не расходзіцца і дзеля гэтага ня можа перайсьці цераз кішкі ў кроў, як цукер. У роце ад сьліны ператвараецца у цукер толькі нязначная частка крахмалу, а рэшта ўжо—ў ператраўніку. Перацёрты на зубах і змочаны сьлінаю корм з роту пераходзіць у **глотку** і па глотцы пападаець у першы мяшок ператраўніка, які завецца трыбухом.

**Трыбух** ёсьць найбольшы мяшок ператраўніка. Гэты мяшок такі вялікі, што ў ім можа зьмясьціцца 10—12 вядзёр вады. Чым карова корміцца горшым і грубейшым кормам, тым большы ў яе трыбух. У цялят, якія жывяцца толькі адным малаком, трыбух бывае зусім малы, а, наадварот, вялікім бывае чацьверты мяшок—сычук. Толькі тады, як цялёнак пачне пераходзіць ад малака да грубога корму, пачынае хутка разрастацца трыбух.

Трыбух у каровы заўсёды бываець у руху. Рух гэты можна дасьледзіць, калі націснуць кулаком у левы пах каровы і націснуўшы патрымаць кулак колькі мінутаў: трыбух будзе то падымацца, то быццам апускацца. Бывае гэта ад таго, што тоўстыя сьценкі трыбуха то раздуваюцца, то сьціскаюцца ізноў, павялічаваючы і памяншаючы самы мяшок. Ад гэтага корм у трыбуху перамешаваецца, пераціраецца і лепей ператраўляецца. Калі трыбух застановіцца, перастанець падымацца, тады карову абдуваець, ператраўка корму спыняецца і корм пачынае проста ў трыбуху гніць. Калі не дапамагчы ў гэткім выпадку карове, дык яна раздуецца, як бубён, і можа здохнуць.

У трыбуху корм бывае блізка што суткі і пасьля гэтага пераходзіць у другі мяшок ператраўніка—сіта.

**Сіта** ляжыць з правага боку ад трыбуха. Сіта маець тры дзіркі. Аднэй дзіркай сіта злучаецца з глоткай, другой з трыбухом, а трэцяй — з трэцім мяшком ператраўніка—кніжкай. Сітам яно называецца дзеля таго, што праз гэты мяшок ператраўніка перапускаецца, як цераз сіта, ўвесь корм, які ідзець з глоткі або з трыбуха. Часткі корму, якія ўжо добра ператравіліся ў трыбуху, пераходзяць праз сіта далей у кніжку.

Тыя часткі корму, якія йшчэ зусім не ператравіліся, або йшчэ досыць цьвердыя і грубыя, сіта не прапускае праз сябе і карова адрыгаець назад, у глотку, і па глотцы гэты корм ізноў ідзе ў рот, дзе карова жвець яго зубамі ізноў. Вось ад гэтага ў каровы і бывае **жвака**. Перажваны другі раз і добра расьцёрты зубамі корм ідзе ізноў у глотку, але цяпер ужо мінаець трыбух і адразу з глоткі пераходзіць у сіта, а з сіта проста ў кніжку. Калі карова жвець жваку, дык яна пераціраець зубамі ня той корм, што цяпер зьела, а ўчарашні, які ўжо быў да гэтага ў трыбуху.

**Кніжка** (трэцяя часьць ператраўніка ў жвачных) зроблена так, што сьценкі яе маюць зборкі-лісьцінкі, падобныя як у кніжцы да чытаньня. У кніжцы корм пераціраецца паміж гэтымі лісьцінкамі і робіцца падобны на рэдкую кашу. З кніжкі кармовая каша пераходзіць у чацьверты мяшок ператраўніка--сычук.

Усе першыя тры мяшкі ператраўніка большменш ёсьць круглыя, як пузыры, а сычук мае прадаўгаватую форму.

**Сычук**, адпавядае ператраўніку усіх іншых жывёлаў, якія ня жвуць жваку (у тым ліку і чалавечаму). Ува ўсіх трох першых пузырах ператраўніка (трыбуху, сіце і кніжцы) корм толькі як быццам падрыхтовываўся для ператраўленьня, але самоя ператраўленьне пачынаецца толькі з сычука. Справа ў тым, што ў сычуку заўсёды ёсьць так званы **ператраўны сок**. Вось гэты ператраўны сок мае такую моц, што ён раскладаець на часткі той бялок, які ёсьць у корме і робіць яго магчымым для пераходу ў кроў.

З сычука кармовая каша пераходзіць у кішкі. У кішках корм аканчальна ператраўляецца. Кішкі бываюць тоўстыя і тонкія. Кішкі ў брусе ляжаць скручанымі, а каб іх выцягнуць у струну, дык імі абкруціў-бы 20 разоў карову.

Адразу з сычука корм пападае у так званую **дванаццаціпалую кішку**. У гэту кішку ад печані ўліваецца **жоўць**. **Печань** ёсьць ня што іншае як залоза, якая вырабляець жоўць.

Што робіць жоўць? З папярэдняй гутаркі мы ведаем, што сытнасьць корму залежыць ад таго, колькі ён маець у сябе бялка, крахмалу і алею. Але гэткімі яны ня могуць перайсьці з кішок у кроў, а павінны йшчэ раскласьціся на болей простыя часткі. І вось, як мы ўжо ведаем, крахмал ператвараець сьліна, бялок — ператраўны сок, а алей якраз ператвараець жоўць з дапамогай соку другой залозы.

Гэткім парадкам у дванаццаціпалай кішцы корм ператвараецца і робіцца такім, каб прасачыцца ў кроў. Адным словам, цяпер корм як быццам дзеліцца на дзьве часьці: ператраўленую і неператраўленую, або зусім лішнюю, якая пераходзіць па кішках і выкідаваецца каровай вон. Вось гэта і ёсьць тое, што завецца **калам**.

Што робіцца з ператраўленай часткай корму, якая складае з сябе ўсю тую сыць і ўвесь той клёк, які ідзе на падтрыманьне жыцьця каровы і на вырабатак малака? Адказаць на гэта можна каротка:—яна перасачаваецца з кішок у кроў. Цікава толькі якім парадкам.

Кожны напэўна ведае, што ўсярэдзіне кішкі не такія гладкія, як знадворку. Кожная кішка, апроч тоўстых, усярэдзіне бывае пакрыта **ворсай**. Кожная **варсінка** ёсьць нібы маленькі мяшэчак з надта цененькімі бакамі. Да кожнага гэткага мяшэчка падходзіць цянюткая, як валасінка, жылка. З кішок сыць, распушчаная надта рэдка ў вадзе, перасачаваецца ў сярэдзіну варсінкі, а адтуль у жылку і пападае ў кроў. Кроў, як ведама, заўсёды бяжыць па жылах кругом: ад сэрца ў легкія і ізноў назад. Прабягаючы хутка па сьценках кі-

